www.nv-online.info

№ 95 (4040)

4 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Турецкая карта

Премьер Кобяков как в воду смотрел, выступая 12 ноября в Стамбуле (почти за две недели до гибели российского Су-24) на Белорусском инвестиционном форуме. Он говорил о желании сделать Турцию *«ключевым плацдармом для диверсификации экспорта»*. О том, что Беларусь готова поставлять в Турцию и кормоуборочную технику «Гомсельмаша», и дорожно-строительную технику «Амкодора», и наши МАЗы, БелАЗы, трактора, и многое другое.

После трагедии с самолетом Путин закусил удила и не принял предложение турецкого президента Эрдогана встретиться на полях парижского саммита по климатическим проблемам, на который съехались главы 150 стран, чтобы обсудить ситуацию, создавшуюся в связи со сбитым турецкими ВВС самолетом. Более того, Россия объявила Турции экономическую и дипломатическую войну. Это эмбарго на поставку в Россию турецких продовольственных товаров, что уже давно сделано в отношении стран Евросоюза, и приостановка с Турцией безвизового режима. Российским туристам практически запрещено посещение турецких курортов, воздушное сообщение с Турцией заблокировано.

Тут Кобякову, как говорится, и карты в руки. Белорусскому руководству есть над чем подумать, чтобы найти свое место в очередном путинском конфликте. Это касается и экономики, и политики. Россия – крупнейший поставщик товаров в Турцию. Она обеспечивает 10,4% всего турецкого импорта. Следом идут Китай – 10,3% и Германия – 9,2%. Только в 2014 году российский экспорт в Турцию вырос на 64%, с 15 млрд до 24,8 млрд долларов. Общий товарооборот стран достиг 31,4 млрд долларов и поднялся за последние 10 лет в три раза. Турция – седьмой по счету торговый партнер Российской Федерации. Россия получает оттуда фрукты-орехи (12,4%), транспорт (11,3%), котлы и электрическое оборудование (5,7%), овощи (9%). Турецкие строительные компании выполняют в стране огромный объем работ – не менее чем на 10 млрд долларов.

Несмотря на это, или, наоборот, исходя из этого, Кремль и принял жесткие решения, прежде всего экономического характера. Россия отказалась от импорта из Турции легко замещаемых, как думает ее руководство, товарных групп в виде фруктов (в основном томаты, орехи) и овощей. Россияне положили глаз и на турецкие мясо, рыбу и морепродукты. Мяса в этом году было поставлено в Россию на 3,6 млн долларов, а рыбы и морепродуктов – на 14,6 млн долларов. Россельхознадзор уже «включился в работу» и обнаруживает в турецком мясе разного рода бактерии, а Роспотребнадзор придирается к турецкому ширпотребу.

Конечно, учитывая российские углеводороды, поставляемые туркам, как отмечалось, доля товаров из России в структуре турецкого импорта наибольшая. А доля импорта из Турции за январь–сентябрь в общем объеме ввозимых в Россию товаров лишь 34,6%. Турция – второй по значимости импортер российских зерновых. А главное – ежегодный доход Турции от оказания туруслуг россиянам оценивается приблизительно в 10 млрд долларов. В 2014 году в Турции отдыхало 4,5 млн россиян. Более интенсивно это направление осваивают только немцы (5,25 млн). Не зря же стала крылатой шутка, что Турция является всероссийской здравницей.

Все это, конечно, подсчитали и оценили в Кремле, чтобы больней ударить по турецкой экономике. Москва пообещала пересмотреть перспективы деятельности турецких строительных компаний, которые занимают до одной трети соответствующего рынка. В запасе у Кремля остается еще экспорт из Турции промтоваров и два стратегических проекта: «Турецкий поток» – поставка дополнительного количества газа в Турцию и через нее, дальше в Южную Европу, а также строящаяся по российскому проекту АЭС в Аккую.

**(*Окончание на 2-й стр.*)**

АД СЭРЦА

## Дабрачынны «Васількова баль» сабраў больш за 365 мільёнаў рублёў на будаўніцтва новага будынка дзіцячага хоспіса





Значная частка сродкаў была сабрана на дабрачынным аўкцыёне. Лоты падалі знакамітыя дзеячы мастацтва, спартсмены і прадстаўнікі бізнес-колаў нашай краіны.

Так, лыжы біятланісткі **Дар'і Домрачавай** пайшлі з малатка за тысячу долараў у эквіваленце. А самым дарагім лотам аўкцыёну стала работа беларускага скульптара **Андрэя Асташова**. Скульптура «Кукляша» з серыі «Нашы Дзеці» была прададзена за тры тысячы долараў у эквіваленце.

Як адзначыла дырэктар Беларускага дзіцячага хоспіса **Ганна Гарчакова**, усе сродкі пойдуць на завяршальны этап будаўніцтва – унутраныя аддзелачныя работы. Дырэктар хоспіса выказала велізарную падзяку ўсім, хто падтрымаў «Васількова баль», адзначыўшы, што для завяршэння будаўніцтва неабходна дапамога кожнага.

*Футбаліст **Аляксандр Глеб** з'явіўся на балі з новай сяброўкай Святланай. У абодвух – пярсцёнкі, падобныя на заручальныя. Праўда, знакаміты спартсмен кажа, што з вяселлем не спяшаецца: «Гэта пярсцёнкі «Выратуй і зберажы», мы купілі іх у храме... Мы разам, і нам добра".*

АПЛАДЫСМЕНТЫ

## У Авальнай зале зноў загучала беларуская мова

Нагадаем, што многія дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў актыўна карысталіся роднай беларускай мовай, але пасля таго, як з'явілася Палата прадстаўнікоў, мову проста адняло – усе раптам загаварылі па-руску. І толькі ўчора – упершыню за шмат гадоў – у зале пасяджэнняў зноў адбылася беларускамоўная дыскусія.

Тон задала першы намеснік міністра культуры **Ірына Дрыга,** якая прадстаўляла праект Кодэкса аб культуры. Прычым прадстаўляла менавіта па-беларуску.

Потым удзел у абмеркаванні дакумента ўзялі больш за паўтара дзясятка дэпутатаў, і яны таксама выступалі па-беларуску. Адна толькі дэпутат Валянціна Лявоненка не здолела перамагчы сябе. Цікава, што Валянціна Лявоненка нарадзілася ў Гомельскай вобласці, усё жыццё (прычым не кароткае – 62 гады) пражыла ў Беларусі. Тут вучылася, тут працавала, прычым гісторыкам. Няўжо за 62 гады нельга было засвоіць родную мову? Ці няўжо яе можна было настолькі забыць?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ–УКРАІНА

## Зноў істэрыка?

У расійскіх СМІ з падачы пэўных колаў пачалася чарговая антыбеларуская кампанія. На гэты раз яны б'юць у самыя балючыя кропкі расійскай грамадскай думкі.

*"Паліва з Расіі трапляе ў бакі ўкраінскіх танкаў праз беларускі транзіт..."*

*"Уплывовыя беларусы заліваюць Украіну расійскім дызелем па дэмпінгавых коштах..."*

*"Беларусь па-ранейшаму працягвае прадаваць Украіне не толькі дызпаліва, патрэбнае для бранятэхнікі, але таксама комплексы навядзення і оптыку (напрыклад, для супрацьтанкавага ракетнага комплексу «Скіф», які ў гэтым годзе выкарыстоўваўся ў ваенных дзеяннях у Данбасе), рухавікі і шасі для артылерыйскіх і ракетных установак («Пион", «Точка-У», якія таксама «адзначыліся» на ўсходзе Украіны) і нават «лятальныя апараты». Як усё гэта суадносіцца з беларускімі запэўніваннямі, што рэспубліка выступае за аднаўленне міру ва Украіне, сказаць складана..."*

*"Адкуль у Мінска такая ўпэўненасць, што часовая эканамічная выгада не абернецца сур'ёзнымі палітычнымі выдаткамі? Адкуль такая ўпэўненасць, што Расія па-ранейшаму будзе індыферэнтна ставіцца да спроб заляцанняў да рэжыму, які амаль абвясціў ёй вайну і вядзе палітыку генацыду ў адносінах да рускага насельніцтва Данбаса?.."*

Апошнім часам многія расійскія СМІ (асабліва інтэрнэт-СМІ) пачалі рабіць з Беларусі ворага, які "падтрымлівае кіеўскую хунту". Забываючыся, праўда, дадаць, што да верасня гэтага года менавіта Расія з'яўлялася асноўным пастаўшчыком дызельнага паліва ва Украіну – таго самага "паліва для ўкраінскіх танкаў". А потым раптам было абвешчана, што "нельга дапускаць выкарыстання расійскага паліва ўкраінскімі вайскоўцамі".

Відавочна, што цяпер пачынаецца кампанія прымусу і шантажу, каб і Беларусь адмовілася ад паставак паліва на ўкраінскі рынак. Хаця чаму мы павінны адмаўляцца ад грошай? Чаму паміж інтарэсамі Расіі і Украіны павінны выбраць менавіта Расію?..

ДАРЭЧЫ

На гэтым фоне Масква і Мінск паспрабавалі дамовіцца аб сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна, якая раптоўна была перанесена з-за надзвычайнай занятасці абодвух прэзідэнтаў. На гэтым тыдні магчымасць сустрэчы абмеркавалі міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей і пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў. Згодна з афіцыйнай інфармацыяй, "бакі абмеркавалі актуальныя пытанні беларуска-расійскага ўзаемадзеяння, а таксама графік кантактаў на вышэйшым і высокім узроўнях". Вышэйшы ўзровень – гэта, відавочна, сустрэчы прэзідэнтаў, высокі – міністраў і іншых прадстаўнікоў урада. Аднак канкрэтная дата перамоў названа так і не была.

**Алена НОВІКАВА.**

АФІЦЫЙНА

## Шлагбаум не апусцяць

Днямі з'явілася інфармацыя, што з 7 снежня ўводзяцца часовыя абмежаванні на пастаўкі ў Расію прадукцыі шэрагу беларускіх прадпрыемстваў. І вось афіцыйная заява.

*"Гэта пытанне знята,* – сказаў начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Аляксей Багданаў** пасля сустрэчы міністраў сельскай гаспадаркі Беларусі і Расіі. – *Праблема была ў тым, што нашы прадпрыемствы не паспелі даслаць у Расію пакет дакументаў, які спецыялісты "Россельхознадзора" запыталі падчас інспекцыі ў кастрычніку. Гэтыя дакументы яны атрымаюць на працягу некалькіх дзён, тым больш што істотных прэтэнзій да нашых малочных прадпрыемстваў у іх не было".*

ПАД ГРАДУСАМ

## Пахаладае толькі на Каляды

*Снежань будзе больш цёплы, чым звычайна.*

***У бліжэйшыя выхадныя*** надвор'е істотна не зменіцца, нават крыху пацяплее. ***У суботу і нядзелю*** ноччу будзе 0...+5⁰С. Днём чакаецца +2...+8⁰С. Надвор'е будзе крыху сырым і ветраным. Да канца дэкады яно істотна не зменіцца.

У другой дэкадзе ў асобныя дні чакаюцца кароткачасовыя ападкі, мокры снег, які будзе пераходзіць у дождж. Тэмпература ноччу складзе ад 0 да -5⁰С, па паўднёвым захадзе – +1...+3⁰С.

«Да 20 снежня тэмпература паветра ў Беларусі будзе вышэй за норму, потым на калядныя святы крыху пахаладае, – *робіць прагноз на пачатак зімы начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Дзмітрый Рабаў**.* – Праўда, да Новага года тэмпература зноў пачне павышацца. Папярэдняя тэмпература паветра ноччу на Новы год чакаецца каля -1...-6⁰С, днём будзе каля 0. Месцамі па краіне прагназуюцца невялікія ападкі – снег і мокры снег».

**Вера ВІР.**

У СОСЕДЕЙ

## Строительство американской базы ПВО в Польше начнется весной 2016 года

Об этом сообщил посол США в Польше Пол Джонс.

Сегодня, 4 декабря, посол примет участие в конференции, организованной Корпусом инженерных войск сухопутных войск США. На ней будут представлены условия и принципы участия в предварительно объявленном тендере на строительство военных объектов на территории военной базы в Редзиково.

*«Реализация проекта находится в процессе, мы активно в нем участвуем. Это нашло подтверждение вчера, когда госсекретарь США Джон Керри встретился с министром иностранных дел Витольдом Ващиковским. Мы движемся вперед и весной начнем строительство. Этот объект начнет действовать в 2018 году. Правительство оказывает помощь, мы также, поэтому все будет сделано»,* – отметил посол США.

Согласно планам, на новой базе НАТО будут размещены мобильные батареи с ракетами средней дальности SM-3. Сделка о размещении ракет была подписана между Польшей и НАТО в 2010 году с целью «защитить страны НАТО от потенциальной угрозы баллистического удара со стороны «стран-изгоев»

Ранее Пентагон подтвердил планы размещения тяжелого вооружения на территории семи стран ЕС: Эстонии, Латвии, Литвы, Польши, Болгарии, Румынии и Германии.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Нобель наш: тыдзень Алексіевіч

*Як вядома, 10 снежня ў Стакгольмскай канцэртнай зале будуць уручаны Нобелеўскія прэміі за 2015 год. Уганараванне прымеркавана да гадавіны смерці заснавальніка самай славутай узнагароды ў свеце Альфрэда Нобеля і супадае з Днём правоў чалавека. Менавіта пра трагічныя лёсы простых людзей постсавецкай прасторы колькі гадоў піша беларуская пісьменніца **Святлана АЛЕКСІЕВІЧ**, якая атрымае ў наступны чацвер Нобелеўскую прэмію па літаратуры.*




Прэмія мае і грашовы дадатак – блізу мільёна долараў. Зрэшты, для Беларусі гэта прэмія бясцэнная. Той факт, што Нобель наш, безумоўна, гістарычная падзея для ўсёй нашай краіны.

Мяркуйце самі. Нобелеўскую прэмію па літаратуры сярод нашых суседзяў маюць толькі палякі: у розныя гады былі ўганараваны Генрык Сянкевіч, Уладзіслаў Рэймант, Чэслаў Мілаш, Віслава Шымборска. Няма Нобелеўкі ані ва ўкраінцаў, ані ў літоўцаў, ані ў латышоў, ані ў расійцаў. Вы спытаецеся: а як жа Іван Бунін, Іосіф Бродскі, Міхаіл Шолахаў, Барыс Пастэрнак, Аляксандр Салжаніцын? Гэта рускамоўныя літаратары, але Нобелеўскую прэмію яны атрымлівалі як грамадзяне Францыі, ЗША ці СССР, Расійскага грамадзянства ў той час не было.

Цырымонія ўручэння Нобелеўскіх прэмій павінна стаць 10 снежня адной з найгалоўнейшых сусветных падзей. А перадусім – для беларусаў, якія змогуць з гонарам назіраць трыумф зямлячкі.

**Прамую трансляцыю ўручэння літаратурнага Нобеля Святлане Алексіевіч са Швецыі будзе ладзіць тэлеканал "Белсат". Пачатак – у 18.25 па беларускім часе.** Глядзець урачыстую цырымонію можна як па тэлевізары з дапамогай спадарожнікавай антэны, так і на камп'ютары ці тэлефоне праз анлайн-сэрвіс на сайце belsat.eu.

Таксама "Белсат" раскажа ўвечары 7 снежня пра нобелеўскую лекцыю пісьменніцы ў Шведскай акадэміі.

Наогул з 7 па 11 снежня на "Белсаце" – цэлы **"Нобелеўскі тыдзень са Святланай Алексіевіч"**.

Апрача згаданай наўпроставай трансляцыі з цырымоніі ўзнагароджання нобелеўскіх лаўрэатаў за 2015 год у эфіры "Белсата" будуць рэпартажы пра стакгольмскую прэс-канферэнцыю Святланы Алексіевіч (9 снежня ў 22.35), яе нобелеўскую лекцыю, а таксама адмысловыя выданні перадач "Два на два", "Рэмарка", "Размова" і "ПраСвет". Літаратары і крытыкі паразважаюць пра феномен Алексіевіч, пра тое, што прынясе Нобель беларускай культуры і як паўплывае на нацыю.

І штодня на наступным тыдні ў навінавым блоку "Студыі "Белсат" – рэпартажы пра нобелеўскія мерапрыемствы і інтэрв'ю з іх удзельнікамі ад спецыяльнага карэспандэнта канала ў Стакгольме **Аліны Коўшык**.

Нагадаем: калі стала вядома пра тое, што Святлана Аляксандраўна ўганаравана Нобелеўскай прэміяй, разгарэлася шмат дыскусій вакол яе асобы і творчасці. Пісьменніца зазнала і віншаванняў, і папрокаў за рускамоўнасць ад беларускамоўных суайчыннікаў, і прапагандысцкай крытыкі за сваю грамадзянскую пазіцыю.

*"Глядзіце на Расію: яна звар'яцела, 84% падтрымліваюць Пуціна. Няма культуры жыцця, ёсць культура вайны. І беларусаў таксама ўцягвае ў гэтую варонку. Адзінае, што нас можа ўратаваць, гэта тое, што ментальнасць беларусаў іншая",* – лічыць пісьменніца.

*"Беларусь – маленькая правінцыйная дыктатура ў параўнанні з той самай Расіяй, якая ператварылася ў пагрозу для ўсяго свету",* – сказала, напрыклад, Алексіевіч сёлета ў нашумелай перадачы "Зоры не спяць" на "Белсаце".

Разам з тым яна кажа: *"У мяне ніколі не было праблемы застацца жыць за мяжой, але я ніколі не хацела гэтага. Пасля 11 гадоў я зразумела, што хачу жыць сярод сваіх людзей, сваіх краявідаў".*

Таму няма сумневаў, што і прэс-канферэнцыя Алексіевіч, і яе лекцыя, і словы падчас уручэння Нобеля выклічуць вялікі рэзананс.

Што яна скажа пра Беларусь, пра сучаснага чалавека, пра цяперашні свет?

**Андрэй ЦЯПЛОЎ.**

ДА ВЕДАМА

## У 2016 годзе будзем гуляць запар па тры-чатыры дні ў студзені і маі

Урад Беларусі зацвердзіў новы графік пераносу рабочых дзён у 2016 годзе. Такім чынам, 8 студзеня (прыпадае на пятніцу) будзе лічыцца выхадным днём, а 16 студзеня (субота) стане рабочым. І атрымліваецца, што з 7 па 10 студзеня святкуем Каляды.

Нармальна пагуляем і ў апошні месяц вясны – з 7 па 10 мая. Дзень Перамогі прыпадае на панядзелак, а 10 мая (аўторак) будзем адзначаць Радаўніцу.

Трохдзённы адпачынак чакае нас на Новы год і ў сакавіку, калі 5-га зроблены працоўным днём, а 7-га (панядзелак) – выхадным. Паколькі 8 сакавіка – Міжнародны жаночы дзень, то і выходзіць, што тры дні запар – вольныя для адпачынку.

**Студзень**

| Пн | Аўт | Ср | Чц | Пт | Сб | Ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

**Сакавік**

| Пн | Аўт | Ср | Чц | Пт | Сб | Ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 3 | | | |

**Май**

| Пн | Аўт | Ср | Чц | Пт | Сб | Ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

– святочныя дні
– перанесены выхадны
– перанесены рабочы дзень

